# Няўжо-ж гэта не чарнасоценская рэакцыя?

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

бавіць іх собскай гісторыі. Усё нацыянальнае нерасейскіх народаў цяпер падганяецца пад рубрыку «рэакцыйна буржуазнага» й выкідаецца зь гісторыі таго ці іншаго народу. Пустое-ж места запаўняецца або ўяўным «заканамерствам» да «злучэньня прагрэсыўных плыняў і зрухаў», або проста гэтак званым «імкненьнем да злучэньня з духам і асьпірацыямі расейскага народу». Наступае яшчэ нячуванае хвальшаваньне гісторыі нерасейскіх народаў і такая-ж нячуваная ў гісторыі ідэялізацыя гісторыі расейскага народу. У «сацыялістычнай» савецкай гістарыяграфіі гісторыя й культура расейкага народу набіраюць якасьцяў «найпрагрэсыўнейшых і найкультурнейшых» у разрэзе сьветавой цывылізацыі й культуры, а тыя-ж «антынародныя» расейскія цары ўключна з ваяводамі й царкоўнікамі надзяляюцца якасьцямі волатаў людзкога прагрэсу, носьбітаў сьветавое цывілізацыі. А якжа, і яны, аказваецца, ужо паслугоўваліся «аб'ектыўнымі законамі» гісторыі, выводзячы ў сьвет згодна гэтых «законаў» магутную Расею.

Бязумоўна, што ў гэтай атмасфэры павінны былі быць засуджанымі нацыянальна-вызвольныя рухі каўкаскіх народаў, асабліва змаганьне народаў Паўночнага Каўказу начале з Шамілем, якое ўспыхнула супраць царызму ў палавіне мінулага стагодзьдзя. Яны былі выкінутыя зь гісторыі гэтых народаў, як «антынародныя й чужаземная агентура». У пытаньнях гісторыі беларускага народу расейская рэакцыя пайшла яшчэ далей. Пасадзіўшы беларускі народ на ласку «культуры» й «гістарычнага працэсу» расейскага народу, яна ў рэшцерэшт наагул зьліквідавала гісторыю гэтага народу, сьцьвярджаючы йяпер, што беларускі народ **першы раз у гісторыі атрымаў сваю нацыянальную дзяржаўнасьць** з рук расейскіх бальшавікоў — з рук Леніна й камуністычнай партыі! Які бязьмежны цынізм!

Але вось даходзіць да XX зьезду КПСС, і Хрушчоў пачынае ліць кракадзілавы зьлёзы, што ў савецкай гістарыяграфіі запанавала нацыянальная дыскрымінацыя. Сталін дапусьціў вялікую памылку, ідэялізуючы гісторыю расейскага народу й хвальшуючы гісторыю нерасейскіх народаў... Народы Каўказу й Сярэдняй Азіі атрымоўваюць спэцыяльн[illegible]нальную палёгку». Рэгабілі[illegible]ет Шаміль, гэты «турэцкі агент», з усім нацыянальна-вызвольным рухам Паўночных Каўкасцаў. Пачаліся таксама выцягвацца з колішніх савецкіх сьметнікаў і іншыя аспэкты гісторыі й культуры гэтых народаў. Недабіткі-ж цалкам высланых у Сібір паўночна-каўкаскіх народаў зноў вяртаюцца ў сваю бацькаўшчыну. Глядзеце, якая ў нас нацыянальная свабода! Ах, каб ня гэтыя смачныя кусочкі — Іран, Пакістан, Індыя, арабскія народы..., а ўжо так было блізкім выхаваньне з каўкаскіх і сярэдня-азіяцкіх народаў новага «савецкага» чалавека...

І вось зноў адмысловы сэмінар Маскоўскага ўнівэрсытэту, прысьвечаны змаганьню з «буржуазным хвальшаваньнем» гісторыі каўкаскіх народаў. Што-ж ён канстатуе? «Заходнія й турэцкія буржуазныя гісторыкі, — зазначае ў сваім дакладзе С. Бушуеў, — каўкаскія эмігранты-здраднікі й некаторыя савецкія гісторыкі-рэвізіяністыя, наняўшыся на службу манапалістычнага капіталу, сьведама хвальшуюць гісторыю каўкаскіх народаў».

У чым-жа заключаецца гэты хвальш? А вось у чым: 1) сьведама збольшваюць адмоўныя бакі вонкавай палітыкі царскай Расеі, ідэялізуючы адначасна родавы й фэўдальны лад гэтых народаў у мінулым; 2) адкідаюць канцэпцыі савецкай гістарыяграфіі аб прагрэсыўным характары далучэньня Каўказу й Сярэдняй Азіі да Расеі й аб жыватворных уплывах расейскай культуры на разьвіцьцё культураў іншых народаў; 3) намагаюцца абыйсьці тую вялікую ролю, якую адыйгралі расейскі народ і ягоная культура ў гістарычным лёсе іншых народаў; 4) намагаюцца абыйсьці ролю расейскага пралетарыяту ў вызвольным змаганьні іншых народаў; 5) нападаюць на Івана Грознага й Пётру I, стараючыся гэтым самым паставіць пад сумлеў заканамерны рост расейскай цэнтралізаванай дзяржавы; 6) сьцьвярджаюць, што быццам-бы ў СССР вядзецца змаганьне з народным эпасам нерасейскіх народаў і гвалтам насаджваецца гэтым народам культура расейскага народу; 7) імкнуцца перагледзіць даўно вырашаныя савецкай гістарыяграфіяй пытаньні гісторыі нерасейскіх народаў; 8) ня бачаць, што каўкаскі мюрыдызм (рэлігійная плынь, пад якой праводзілася нацыянальна-вызвольнае змаганьне) быў «антынародным» і «рэакцыйным»; 9) ня бачаць, што прарасейская арыентацыя ў нацыянальна-вызвольным змаганьні каўкаскіх народаў была прагрэсыўным зьявішчам, а пратурэцкая — рэакцыйным. Заключэне-ж дакладу С. Бушуева, які, дарэчы, быў апрабаваны цэлым сэмінарам, гучэла наступна: «далейшая мабілізацыя масаў для пасьпяховага выкананьня заданьняў камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне немагчыма без узмоцненага выхаваньня працоўных СССР **у духу савецкага патрыятызму, пралетарскага інтэрнацыяналізму...»**

Як бачым «камуністычнай партыі» не падабаецца, калі, прыкладам, А. Пікман у 1956 годзе сьцьвярджаў у сваім артыкуле, што савецкая гістарыяграфія страшэнна падкрашвае гісторыю царскай каляніяльнай палітыкі на Каўказе, хвальшуючы ў сувязі з гэтым навет самога К. Маркса й Ф. Энгельса. Ёй не падабаецца таксама, калі Г. Даніялаў калісьці сьцьвердзіў у сваім дакладзе, прачытаным на канфэрэнцыі ў Махаікале, што народны рух каўкаскіх народаў мог-бы пайсьці па шляху заходняга дэмакратызму, калі-б гэтаму не памяшала расейская акупацыя Каўказу. Наагул ёй не падабаецца ўсё, што зьяўляецца не расейскім.

Аднак нас тут цікавіць тупая расейская гордасьць за сваіх цароў-забойцаў, якім быў, прыкладам, Іван Грозны, што зьнішчыў ня толькі соткі тысяч Беларусаў і Латышоў, але й самых Расейцаў, маючы сваю «апрычніну» ў крыві жыхарства цэлых раёнаў і гарадоў. Што-ж, у замен мы маем «заканамерна» ўзбуйненую Расею!.. Цікавіць таксама й тое самахвальства, што культура расейскага народу стаіць над культурамі ўсіх іншых народаў, жыватворна ўзьдзейнічаючы на культурнае разьвіцьце іншых народаў, ды што расейскі царызм ці пралетарыят выконваюць «гістарычную місію» вызваленьня іншых народаў. Бязумоўна, культура акупанта заўсёды будзе вышэй стаяць культуры падбітых народаў, асабліва, калі гэты акупант праводзіць сыстэматычнае вынішчэньне нацыянальных культурных здабыткаў падбітых народаў, гамуе культурнае разьвіцьцё гэтых народаў сыстэматычным вынішчэньнем кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Каб гэта зразумець, тут ня трэба навет знаць і «дыямату». Калі йдзе пра «гістарычную місію» расейскага народу, дык яна, якога-б характару ня была, запраўды йснуе, насаджаная толькі штыкамі й танкамі. Характар-жа гэтай «місіі» — упорыстае змаганьне й сыстэматычнае зьнішчаньне ўсяго таго, што стаіць на перашкодзе расейскай экспансіі й ненажэрнаму імпэрыялізму.

Змаганьне з «буржуазным нацыяналізмам» для дабра «пралетарскага інтэрнацыяналізму»!.. Добры, але даволі зьежджаны й абмазолены канёк, які занадта-ж прасьвятляецца расейшчынай: Іван Грозны, Пятра I, «жыватворны ўплыў» культуры расейскага народу на культурнае разьвіцьцё іншых народаў, «гістарычная місія» расейскага народу ды **нарэшце гэтая** «слаўная й непераможная» Расея. Бо калі-ж ужо гаворыцца аб «пралетарскім інтэрнацыяналізьме», господа-товарыщи, дык пазбаўцеся-ж нарэшце гэтага комплексу «вышэйшасьці». Пазбаўцеся яго не «дыялектычна», але із зразуменьнем чалавека, а тады адпадзе таксама й небясьпека «буржуазнага нацыяналізму». Ён не такі ўжо злосны, але затое **вельмі й вельмі жывучы.**

**П. Залужны**




*Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыка Васіль, Архіяпіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, перад мікрафонам Радыя Вызваленьне.*

**У сваім Калядным Пасланьні, перададзеным Беларускай Рэдакцыяй Радыя Вызваленьне на Бацькаўшчыну, Ўладыка Васіль, між іншага, сказаў:**

**«... Цешцеся і радуйцеся, і слаўце Раство Хрыстовае! Сваімі духовымі вачыма я бачу ўжо Цябе, мой любы і слаўны беларускі Народзе, вольным і непадданым у радасьці і дабрабыце, у гонары і славе Божай, бо Хрыстос, Бог і Спас наш, нарадзіўся! Нарадзіўся, каб Сьвятло Праўды і Свабоды Яго зазьзяла ўва ўсім сьвеце, каб кожны народ быў вольным, каб красавала і нашая любая Маці-Беларусь!»**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

**Уладзімер Паўлаў**

## *Ты, радзіма, мяне пагукай*

Ты, Радзіма, мяне
Пагукай
У квяцісты, сьвяточны
Май,

Дзе-б ні быў
У якой далі,
Я вярнуся к сваёй
Зямлі.

Ты пакліч,
Як ударыць гром
І дарогі размые
Дажджом,

Ты пакліч,
Не забудзь мяне.
Ня прыйду, —
Прыпаўзу к табе.
Ды адну не пакіну,
Не!

Ты пакліч,
Ты вазьмі з сабой,
Калі выбухне раптам
Бой.

(Зь літаратурнае старонкі «Нівы» № 52 (148))

што да гэтага часу будзе трымаць у сакрэце. Белая, пульхная рука рэдактара націскае ўлучнік нутранога тэлефону:

— Безадкладна прышліце да мяне палітычнага рэдактара й тэхнічнага кіраўніка.

Калі яны зьявіліся, Ляпуант загадаў тэхнічнаму кіраўніку:

— Устрымайце друкаваньне нумару. Зьмяняем першую бачыну.

Тэхнічны кіраўнік адразу пераказаў загад у залю лінатыпаў. У міжчасе Ляпуант гаварыў палітычнаму рэдактару:

— Напішаце, калі ласка, безадкладна артыкул — у найбольш аптымістычным духу — аб хуткім памысным заканчэньні нарадаў XI міжнароднай канфэрэнцыі ў справе раззбраеньня. Эміліё Эсковар найлепш паінфармаваны ў гэтай справе, таму калі ён выказвае ўпэўненасьць, што пагадненьне будзе падпісанае, можам зусім спакойна зьмясьціць на першай бачыне артыкул пад буйным загалоўкам.

«Атамнае раззбраеньне — справа толькі некалькіх дзён».

* * *

Нікэ зь непаўстрыманай хуткасьцяй ляціць у кірунку зямлі. Ейны электронны мазговы цэнтр сьцьвярдзіў 2350 сэкунду лёту. Яшчэ застаецца 130 сэкундаў. Лічнікі сьцьвярджаюць, што хуткасьць і курс згодныя з плянамі. Нікэ зьбліжаецца да мяжы зямной атмасфэры. Калі-б пры цяперашняй хуткасьці, яна зьткнулася з атмасфэрай, зь Нікэ застаўся-б толькі вугаль. Тэрмаграфы перасылаюць да мазгавога цэнтру тэмпэратуру вонкавай паверхнасьці цела Нікэ: зь мінус $420^0$ яна ўзрасла да плюс $280^0$. Ня доўга думаючы, мазговы цэнтр Нікэ загадвае зьменшыць хуткасьць з 17.000 міль на 8.000.

* * *

Маршал савецкай арміі Лебедзеў адарваў вочы ад газэты й злосна глянуў на тэлефон, які званіў нецярпліва: «Заўсёды сушаць галаву нейкімі драбніцамі!» Бяручы трубку, буркнуў знуджаным голасам:

— Што там за бяда зноў?

Хвіліну слухаў уважна, але пазьней зрабіў кіслую міну й перапыніў:

— З такімі справамі да шэфа паветранай абароны, а не да мяне. Пэўна йзноў заблудзіў нейкі амэрыканскі самалёт. Далажыце Шапашнікаву, хай вышле свае самалёты, а яны навучаць Амэрыканца, як шанаваць нашы граніцы. Дзякую.

* * *

Яшчэ 40 сэкундаў лёту. Электронныя мазгі Нікэ параўноўваюць радарнае адбіцьцё далягляду з адбіцьцём вызначанай ёй мэты. Папраўка 80 міль. Як на адлегласьць, якую праляцела Нікэ, памылка дробная, аднак ракета рэагуе адразу. Лічнікі аблічаюць курс і падаюць адпаведную зьмену. Амаль незаўважна парушаюцца стырны й Нікэ накіроўваецца на патрэбны курс.

* * *

Толькі 30 сэкундаў да мэты. На гэтым апошнім адрэзку трасы мазговы цэнтр ракеты пачынае вылучаць па чарзе непатрэбныя ўжо мэханізмы. Ужо ня ідэнтыфікуе свайго палажэньня. Гэта была-б дарэмная дзейнасьць, бо няма часу на папраўкі. Адхіленьне ня можа быць большае за 10 міль. У параўнаньні з засягам ракеты, гэта адлегласьць ня будзе мець уплыву на выніки. Вылучаецца апаратура, якая рэгулюе тэмпэратуру ракэты, пры зямлі розьніца тэмпэратуры хістаецца ад мінус $60^0$ да плюс $120^0$, што таксама ня ўплывае на выкананьне заданьня. Таксама вылучаецца мэханізм зыгзакаватага лёту, патрэбны ў выпадку, калі-б была высланая ракета, каб зьнішчыць Нікэ перад ейнай мэтай. У гэтым выпадку ня было патрэбы ўжываць гэты мэханізм, а цяпэр, калі застаецца толькі 30 сэкундаў, магчымасьць нападу ня йснуе.

* * *

Толькі 10 сэкундаў да мэты. Мазговы цэнтр Нікэ высылае першы й апошні радыёвы рапарт з свайго пералёту: Асягне мэту з адхіленьнем 8 міль. Гэта ня робіць розьніцы, бо г. зв. Рад'юс Ноль, у якім тэмпэратура каля $2000^0$ мусіць зьнішчыць усякае жыцьцё, складае 25 міль. Апошняй дзейнасьцяй мазгавога цэнтру ёсьць адбясьпечаньне вадароднай бомбы і улучэньне прэцызыйнага апарату, які мерыць вышыню й які, спалучаны з дэтанатарам бомбы, мае выклікаць выбух, калі Нікэ будзе знаходзіцца 3000 футаў над мэтай.

* * *

Хрыпла заенчыў званок далекапісу. «Мушу прыгадаць, каб нарэшце зьмнілі, або ўрэгулявалі гэты праклятый званок», — падумаў маршал Лебедзеў, назіраючы, як з валкаў выпаўзае жаўтаватея йстужка паперы. Маршал чытае:

«Масква, Ленінград, Харкаў зьнішчаныя вадароднымі бомбамі. Таму, што лініі першай перасьцярогі ня сьцьвердзілі варожых самалётаў за выняткам аднаго над Каўказам, трэба прыпушчаць, што бомбы былі перавезеныя міжкантынэнтальнымі балістычнымі ракетамі. Загадваю безадкладна выканаць плян апэрацыі пад назовам «Красная Победа».

Маршал Лебедзеў мае ўражаньне, што ён правальваецца ў цемру й пустэчу, як тады ў Бэрліне, калі быў ранены на Альпэнштрасэ. Ляжаў на руінах разьбітага бункеру й так не хацеў уміраць. Так хацелася жыць, калі, прайшоўшы 5000 вёрст, дайшоў да сталіцы ворага, калі ягоныя жаўнеры пісалі на сьценах здабытага гораду радаснае: «Мы перамаглі!» Маршал прыгадвае, як тады ягоная думка, пераскочыла ўсё камуністычнае жыцьцё й камуністычнае ўзгадаваньне, вяртаючыся да дзіцячых гадоў.

Санітары, якія клалі яго на насілкі, мусілі моцна дзівіцца, што ён, генэрал і герой Савецкага Саюзу кладзе на грудзі патройны шырокі знак крыжа, а ягоныя зьбялелыя вусьны шэпчуць словы малітвы.

І цяпер, пад цяжарам страшэннай весткі, у ягоных мазгох пачалі дзеіць атавістычныя імпульсы. Ён — маршал Савецкага Саюзу, ён — гонар партыі — ізноў, як тады, у Бэрліне: атавістычным імпульсам тройчы шырака перахрысьціўся, а з вуснаў вырвалася малітва:

— Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй!...

Пасьля некалькі хвілін ён авалодаў сабой. Перамагла прывычка думаньня дакладнымі катэгорыямі, вайсковая рутына шуканьня дадзеных да прыняцьця пастаноў. Ён прыгадаў пастановы й інструкцыі ваеннай рады, якія пацьвердзіла толькі што атрыманая тэлеграма.

Маршал выцягнуў руку да тэлефону: «Загадваю безадкладна пачаць акцыю пад агульным кодам «Красная Пабеда».

І, адказваючы на нейчае пытаньне ў тэлефоне, дадаў:

— Да, это война.

З польськае мовы пераклаў **пс**

# Зь беларускага жыцьця

## КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА Ў МЭЛЬБУРНЕ (АЎСТРАЛІЯ)

У сыботу дня 27-га сьнежня 1958 году Беларускі Школьны Камітэт у Вікторыі зладзіў калядную ялінку для вучняў Беларускай Школы й беларускіх дзяцей. Урачыстасьць гэтая супала із заканчэньнем ужо чацьвёртага школьнага году.

Старшыня Школьнага Камітэту й настаўніца Беларускае Школы сп-ня Э. Яцкевіч, адчыняючы ўрачыстасьць, у сваёй прамове падзякавала беларускім настаўнікам сп. сп. А. Жураўлевічу й Сідлярэвічу, якія так ахвярна й цяжка працуюць. Так-жа з асаблівай увагай іншыя пастанавілі быць імі ў наступным годзе.

Сёлета, як і папярэднія гады, Беларуская Школа цешыла сэрцы й вочы сваіх бацькоў, грамадзтва й іншых беларускіх дзяцей сваім мастацкім выступам, які сёлета складаўся зь дзьвёх частак. У першай частцы школьны хор (у бальшыні апрануты ў нацыянальныя ўборы) з прыгожай каляднай зоркай, калядкай «Неба і Зямля» распачаў школьны выступ. Хор замянілі дэкляматары, а дэкляматараў хор. Найлепш выпала калядка «Дзын-Бам-Бом», словы А. Салаўя, на мэлёдыю папулярнай у англамоўным сьвеце «Джынгэл-Бэл». У ліку дэкляматараў былі: А. Сьлесарэвіч, Ю. Кадняк, С. Раманоўскі й М. Кадняк.



Школьны хор

была вынесена падзяка паэту Алесю Салаўю, які штогоду забясьпечвае Беларускую Школу новымі вершамі й песьнямі. Наступна выступіў дырэктар Беларускае Школы сп. Жураўлевіч, які зачытаў гадавыя вынікі вучняў.

Прыемна было быць і чуць, а асабліва бачыць хваляваньне дзяцей, якім выносілася гадавая ацэна іх працы. Вясёлымі й паважнымі былі выдатнікі, але й

У другой частцы была паказана калядная п'еса Д. Баяна «Падарунак», зьмест і прыгожыя сцэны якой перанесьлі прысутных на бацькаўшчыну Беларусь. У выкананьні п'есы бралі ўдзел: сп-ня Галя Сьлесарэвіч і школьныя дзеці — А. Яцкевіч, М. Кадняк, А. Сьлесарэвіч, Б. Жураўлевіч, Л. Чарэўка, С. і Н. Сахон і школьны хор.

Сёлета як і папярэдня, беларускіх школьнікаў і іншых беларускіх дзяцей не забыўся Дзед Мароз, а прыехаў да іх аж із самай Беларусі, дарыў падарункамі, цукеркамі й іншымі смачнымі рэчамі. На просьбу Школьнага Камітэту, Дзед Мароз уручыў настаўнікам Жураўлевічу й Сьлесарэвічу памяткавыя падарункі, а настаўніцы Э. Яцкевіч, на просьбу Жаночага Камітэту пры Беларускім Аб'еднаньні, уручыў зьмястоўны й прыгожы падарунак.

На заканчэньне ўрачыстасьці Школьны Камітэт наладзіў пачастунак для дзяцей; дзеткі-ж вельмі жвава ўвіхаліся ля марожанага й салодкіх напіткаў. А на самы канец адчынілася крыніца, у якую дзеці закідалі вудку й выцягвалі прыгожыя цацкі й школьныя прылады.

Зьмястоўнай прамовай дырэктар Жураўлевіч зачыніў урачыстасьць. Ад імя бацькоў прамаўляў сп. Сьлесарэвіч, які дзякаваў настаўнікам за іх вялікую працу ды заклікаў усіх да падтрымоўваньня Беларускай Школы.

За працу ў наладжаньні Ялінкі належыцца падзяка спадарыням Сьлесарэвіч і Раманоўскай, а таксама спадаром: Я. Сьлесарэвічу, А. Грушу, С. Розмыслу, Субачу (які шчыра ўзбагаціў дзіцячыя падарункі) й іншым.

Спары Божа ў працы Беларускай Школы!

**Лявон Сьвецiч**

## ВЯЛІКАЕ СЬВЯТА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ТАРОНТА

Вялікім сьвятам былі для Беларусаў Таронта сыбота й нядзеля 20 і 21 сьнежаня г. г. Шчэ колькі дзён перад гэтым, тут абляцела ўсіх парахвіян, і не парахвіян, вельмі радасная вестка, што БАП Царква імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта чакае на візытацыю Украінскага Архіяпіскапа й Мітрапаліта на Паўночную й Паўднёвую Амэрыку, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Высокапрэасьвяшчэньнейшага Ўладыкі Багдана.

У сыботу, а 10-ай гадз. раніцою, Уладыка Багдан у саслужэньні а. Пратаерэя Міхаіла, адправіў Сьв. Літургію, у часе якое сп. Юры Ягодськы (Украінец) быў высьвечаны ў дыяканы. У сваім казаньні ён пахваліў харыстых (кіраваў — сп. П. Слаўко) за прыгожае сьпяваньне. Вялікую пахвалу атрымаў а. Пр. Міхаіл за дакладнае выкананьне абрадаў падчас



**Зь лева на права: а. Пратаерэй Міхаіл, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап і Мітрапаліт Украінскае Праваслаўнае Царквы Паўночнае й Паўднёвае Амэрыкі Уладыка Багдан (Ён прыналежыць беспасярэдня да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха) і рукапаложаны а. Георгі, разам з групаю парахвіян прыходу БАПЦ імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.**

высьвячэньня. У нядзелю, ужо пры масавым удзеле вернікаў із падмацаваным хорам, Уладыка Багдан, у саслужэньні а. Пр. Міхаіла і дыякана Георгія, адслужылі Сьв. Літургію, пасьля якое дыякан Георгі быў рукапаложаны ў сьвятары, з санам ерэя. Уладыка сказаў вельмі прыгожае патрыятычнае казаньне, а таксама пераказаў усім вернікам багаслаўеньні Архіяпіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля зь Ню Ёрку. У сваім першым казаньні а. Георгі падчыркнуў сваю цесную й неадлучную сувязь з прыходам Сьв. Кірылы Тураўскага ў будучыні, і што гэтыя радасныя дні навечна застануцца ў ягонай памяці, бо тут якраз было месца яго рукапалажэньня.

Па набажэнстве парахвіянкі запрасілі дастойных гасьцей і ўсіх вернікаў на традыцыйны абед-прыняцьце, які суправаджаўся шматлікімі прамовамі й пажаданьнямі. На абедзе прысутнічаў таксама прыяцель а. Георгія — др. Дзегцярэнко.

# „Ці яшчэ існуе адзіная камуністычная ідэялёгія?“

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

камуністыя прыгадалі адзінае выказваньне Маркса ў гэтым пытаньні й вярнуліліся таксама да тэорыі «пэрманентнай рэвалюцыі», высьмеянай у Савецкім Саюзе».

Леонгард зазначае, што ў ліпені 1958 году кітайскія камуністыя пачалі выдаваць свой тэаратычны часапіс «Гуанці», гэта значыць «Чырвоны сьцяг», ад лістапада пачаў выходзіць і другі ідэялягічны часапіс. У гэтых часапісах, як і ў выданьнях партыйных камітэтаў розных правінцыяў Кітаю, друкуюцца не пераклады артыкулаў з савецкай прэсы, а ідэялягічныя тэзісы камуністычнага ператварэньня слаба разьвітых краінаў на кітайскі ўзор.

Рыхтуюцца да друку падручнікі «Гісторыі Кітаю» і «Палітычнай эканоміі», у якіх кітайская практыка пераходу да сацыялізму й камунізму прапануецца як прыклад іншым краінам. Усё гэта паказвае, што Пэкін хоча распрацаваць уласныя ідэялягічныя тэзісы. Леонгард працягвае:

«Гэтыя фактары — наяўнасьць рэфармісцкіх плыняў сярод камуністычных партыяў і узьнікненьне новай кітайскай камуністычнай ідэялёгіі — тлумачаць узмоцненую дзейнасьць савецкага кіраўніцтва ў галіне ідэялёгіі.»

Цьвердзячы, што савецкае кіраўніцтва зрабіла ўсё магчымае, каб як мага хутчэй сыстэматызаваць ідэялягічныя тэзісы, Леонгард прыгадвае зьяўленьне новых тэарэтычных выданьняў, найважнейшымі зь якіх ён уважае «Пытаньні гісторыі КПСС», падручнік палітычнай эканоміі, а таксама новы падручнік «Асновы марксізму-ленінізму», які дае афіцыйнае тлумачэньне дыялектычнага й гістарычнага матэрыялізму. Ён піша:

«Цяпер дзяржаўнае выдавецтва, прыступіла да выпуску 70-ці выданьняў, у якіх паводля тэмаў павінны быць сабраныя адпаведныя цяперашняму курсу КПСС цытаты з працаў Маркса, Энгельса, Леніна і ў некаторых выпадках навет Сталіна, а таксама выказваньні Хрушчова. Гэта фактычна першая спроба сыстэматызаваць савецкія ідэялягічныя палажэньні. Тая пасьпешнасьць, зь якой рыхтуецца выпуск гэтых выданьняў, паказвае на імкненьне савецкага кіраўніцтва скончыць з усімі ідэялягічнымі праблемамі раней, чымся расколіны ў ідэалёгіі сусьветнага камунізму стануцца надта прыкметнымі».

Леонгард уважае, што гэтая спроба ня бузе мець посьпеху. Занадта вялікая розьніца паміж асобнымі камуністычнымі краінамі, іхнымі традыцыямі, занадта розныя шляхі, якімі камуністыя прыйшлі да ўлады ў гэтых краінах, каб ідэялягічныя разыходжаньні паміж партыямі можна было адкінуць выпусьціўшы зборнік цытатаў, як-бы добра яны ні былі падабраныя. Нельга зьнішчыць самастойнасьць югаслаўскіх камуністых, нельга гэтым спыніць імкненьні да самастойнасьці сярод краінаў Усходняй Эўропы й сярод камуністычных партыяў іншых краінаў.

Канчаючы свой артыкул, Вольфганг Леонгард піша:

«Ходу гісторыі спыніць нельга. Замест мінулага непагрэшнага савецкага цэнтру цяпер існуе тры камуністычныя цэнтры: першы зь іх — Белград, цэнтр камуністых-рэвізіяністых, якія імкнуцца адыйсьці ад камуністычнага дагматызму, прыстасаваць ідэі Маркса й Энгельса да праблемаў нашага часу ды йсьці сваім уласным, незалежным ад савецкага кіраўніцтва, шляхам; другі цэнтр — савецкае кіраўніцтва, якое да гэтага часу яшчэ застаецца наймагутнейшым з усіх і прабуе прыстасаваць да сучаснага індустрыяльнага грамадзтва перанятую ад Сталіна ідэялёгію, не паслабляючы аўтарытэту партыйнай герархіі. І нарэшце, цяпер яшчэ й трэці цэнтр — Пэкін. Кітайскія камуністыя зь нязвычайнай энэргіяй імкнуцца да таго, каб распрацаваць ідэялягічныя тэзісы для слаба разьвітых краінаў, якія забясьпечылі-б іхную хуткую індустрыялізацыю й камуністычнае ператварэньне.»

Леонгард выказнвае думку, што югаслаўскія камуністыя могуць уважаць найважнейшымі палітычнымі падзеямі 1958-га году апублікаваньне новай праграмы Саюзу Камуністых Югаславіі й падарожжа Ціта па нэўтральных краінах Азіі. Савецкае кіраўніцтва можа надаваць найбольшае значэньне свайму сямігадоваму пляну й школьнай рэформе. Кітайскія камуністыя ў сваю чаргу могуць уважаць за найважнейшае ў камуністычнай ідэялёгіі стварэньне народных камунаў і свой «скачок наперад».

«На самай-жа справе, — зазначае Леонгард, — найважнейшая падзея ў палітычным жыцьці — гэта зьяўленьне розных плыняў у сусьветным камунізме, якія адхіляюцца ад адзінай лініі, а іншымі славамі, пачатак развалу ранейшай адзінай камуністычнай ідэялёгіі».

**«Р. В.»**

## ЛІТАРАТУРНА-ДЫСКУСІЙНЫ ВЕЧАР

У нядзелю ўвечары таго-ж самага дня сп. К. Акула пазнаёміў прысутных прыяцеляў мастацкага слова з урыўкамі свайго раману «Шляхам Змаганьня», які ён падрыхтоўвае да выданьня праз выдавецтва «Бацькаўшчына». Гэты раман мае намер адлюстраваць падзеі, зьвязаныя з ходам утварэньня й існаваньня беларускіх вайсковых адзінак у часе 2-е Сусьветнае вайны, і абяцае быць цікавым, і, разам з тым, ёсьць першай спробаю шырэйшага адлюстраваньня падзеяў недалёкага мінулага. Вечар закончыўся запытаньнямі й карыснымі парадамі для аўтара.

## У КЛІЎЛЕНДЗЕ

25-га сьнежня 1958 г. беларускую калёнію ў Кліўлендзе наведаў а. Ул. Тарасевіч. У сьвятліцы Беларускага Дому а 5-ай гадзіне папаўдні а. Уладзімер зрабіў вельмі цікавы даклад з свайго падарожжа па Эгіпце, Ізраэлю, Ярданіі, Лібану й іншых краінах, паказваючы каляровы фільм із сьвятых месцаў, што вельмі цікава было аглядаць перад сьвятамі Каляд. Айцец доўга гутарыў з прысутнымі, навучаючы, каб ня чураліся беларускасьці ды перадавалі яе сваім дзецям, якія ня памятаюць сваёй Бацькаўшчыны, або нарадзіліся на эміграцыі. Кліўлендцам прыемна было пазнаёміцца з такім глыбока рэлігійным і моцна нацыянальным чалавекам. Шчасьці Вам Божа на службе Богу й Бацькаўшчыне.

☆

Сустрэчу Новага — 1959 — Году ў Кліўлендзе гэтым разам ладзілі супольнымі сіламі ЗБМ і БАЗА ў Кліўлендзе. Сустрэча была найбольш гучная за ўсе гады: была прыгожая заля і больш удзельнікаў, а таксама былі розныя неспадзеўкі. А 10-ай гадзіне заля пачала напаўняцца тутэйшымі й прыезднымі Беларусамі ды гасьцямі іншых нацыянальнасьцяў. Грала беларуская аркестра «Палесьсе» із сьпевамі да танцу Іры Каляды й Міхася Стрэчыня. Як было відаць, кіраўнік аркестры, Ул. Літвінка, пастараўся, каб аркестра была добра падрыхтаваная. Перад 12-ай гадзінай усе селі за супольны стол. Сп. С. Карніловіч прывітаў прысутных і папрасіў паднесьці чаркі за Новы Год, каб ён быў запраўды новым. Вясёлая бяседа працягвалася да 4-ай гадз. раніцы.

**Ул. Д.**

**УВАГА! УВАГА!**

**Выйшла ўжо з друку новая кніга Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

**Проф. Я. Станкевіча**

## Зь гісторыі Беларусі

**Кніга зьмяшчае шэсьць наступных разьдзелаў аб мінуласьці нашае Бацькаўшчыны:**

**1. Беларускія гаспадары (вялікія князі), што не хацелі гаспадарстваваць у чужых;**

**2. Вялікі князь Алег Северскі;**

**3. Імсьціслаў Харобры і Імсьціслаў Удалы;**

**4. Вонкавая гісторыя беларускага права ў розных порах гісторыі Беларусі;**

**5. Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902—1915);**

**6. Гісторыя Беларусі і расейская чорная сотня.**

**Кніжка мае 112 бачынаў друку й каштуе: у Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі й Канадзе — 95 цэнтаў; у Вялікабрытаніі, Аўстраліі й Новай Зэляндыі — раўнавартасьць 70 цэнтаў; у Эўропе — з выняткам Вялікабрытаніі — і Паўднёвай Амэрыцы — раўнавартасьць 60 цэнтаў.**

**Купляць і выпісваць можна або беспасярэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне або ад Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» ў розных краінах расьсяленьня Беларусаў.**

**За кніжку «Зь гісторыі Беларусі» трэба разьлічвацца зь ейным аўтарам Я. Станкевічам, пасылаючы яму грошы на адрыс Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства, гэтак:**

**J. Stankevich, c/o Fr. Skoryna Society, 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, N.Y. U.S.A.**

## УВАГА, ПАДПІШЧЫКІ Ў ЗША

**Падпішчыкі, якія атрымоўваюць, або якія жадаюць атрымоўваць газэту «Б-ну» лётніцкай поштай у 1959 г. павінны прыслаць гадавую падпіску ў суме 16 (шаснаццаць) дал. да дня 15-га студзеня 1959 г. на ніжэй паданы адрыс нашага прадстаўніка:**

Mr. B. Danilovich
303. Howard Str.
New Brunswick, N. J. U. S. A.

## ПОШУКІ

Ад часу заканчэньне вайны шукаю сваю сям'ю, якую бальшавікі вывезьлі ў Расею.

Каролька Мікалай, сын Язэпа, 73 гады, радз. у Міратычах Навагрудзкага павету, у 1941 г. вывезены зь Сенкевічаў Лунінецкага павету;

Лукашэвіч Уладзімер, сын Аляксандра, 63 гады, радз. у Запросі Лунінецкага павету;

Лукашэвіч (жонка) Кацярына, дачка Ўладзімера.

Былі вывезеныя бальшавікамі ў 1940 г. і знаходзіліся ў лягеры на станцыі Халмагорск Архангельскай вобласьці.

Усе весткі ласкава прашу слаць на наступны адрас:

Peter Borkowski
1326 Wellington Ave.
Chicago 13, Ill.
U. S. A.

✳

Алесь Юрыс шукае бацькоў Івана й Марыю, а таксама сёстраў Нюру й Марысю зь вёскі Вялікая Обрына спад Міра, пав. Стоўпцы.

Узнагарода 100 (сто) даляраў асобе, якая падасьць дакладныя весткі на ніжэй паданы адрыс:

Mr. A. Jurys
5434s. 50th Str.
Omaha 7, Nebr., U. S. A.

## ДА ЎВАГІ НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ, КАРЭСПАНДЭНТАЎ І ЎСІХ СУПРАЦОЎНІКАЎ І ЧЫТАЧОЎ

**Ветліва просім усю афіцыяльную карэспандэнцыю, прызначаную для «Бацькаўшчыны», накіроўваць на ніжэй пададзены адрас газэты, а не на паасобных сяброў рэдкалегіі:**

**„Baćkaušćyna“,**
**(13b) München 19, Schliessfach 69.**

**На запытаньні некаторых чытачоў, паведамляем, што у вынятковых выпадках карэспандэнцыю можна высылаць таксама на паасобныя прозьвішчы не падаючы назову газэты, а толькі ейны адрас.**

**Рэдакцыя**

## ДА ЎВАГІ НАШЫХ ДАПІШЧЫКАЎ І КАРЭСПАНДЭНТАЎ

**Каб палягчыць працу рэдактароў «Бацькаўшчыны» й не абцяжарваць іх лішняй тэхнічнай работай, ветліва просім нашых супрацоўнікаў і карэспандэнтаў прысылаць, у меру магчымасьці, матарыялы да дру[illegible]саныя на машынцы кірылічным шрыфтам на адным баку паперы й з шырокімі інтэрваламі між радкамі.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**